# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№1 (164)
студзень 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### Беларусы завялі #Будзільнік

Напярэдадні Калядаў і Новага года грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" правяла добры флэшмоб #Будзільнік!

Працяг на стар. 5

### Новыя факты з архіваў у кнізе пра БЦР. Шукайце ў кнігарнях.

Кніга пра Беларускую Цэнтральную Раду, падрыхтаваная навукоўцам і гісторыкам Алегам Гардзіенкам, стала чарговым сумесным выданнем Згуртавання "Бацькаўшчына" і Беларускага інстытута навукі і мастацтва з Нью-Ёрка (29-я ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны").

Працяг на стар. 5

### "Гадоў датыкненні"

Напрыканцы 2015 года, 16 снежня, у памяшканні Рыжскай Думы (Рыжскай ратушы) адбылося адкрыццё выставы, жывапісу і графікі "Гадоў датыкненні", прысвечанай 40-годдзю творчай дзейнасці Вячкі Целеша, вядомага латвійскага мастака-беларуса.

Працяг на стар. 6

### У Беларусі ўручаная першая народная стыпендыя

Арганізатары Стыпендыі сабралі 40 заявак, сярод якіх 7 трапіла ў фінал.

Працяг на стар. 3




# "МІНСКІЯ ГІСТОРЫЙКІ" МІХАІЛА ВАЛОДЗІНА ВЫЙШЛІ ПА-БЕЛАРУСКУ

Кампанія "Будзьма беларусамі!" сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў падрыхтавала беларуска-нямецкае выданне кнігі Міхаіла Валодзіна "Наш стары добры Вавілон. Прагулка па горадзе ў Мінскіх гісторыйках". Прэзентацыя гэтай кнігі адбылася 20 студзеня ў бібліятэцы імя Пушкіна і сабрала сапраўднае вавілонскае стоўпатварэнне.

На пачатку імпрэзы Міхаіл Валодзін выказаў падзяку

Працяг на стар. 6.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# КОНКУРС ПРАЦАЎ ПРА БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА ПРАЦЯГНУТЫ ДА 1 САКАВІКА

На шматлікія просьбы ўдзельнікаў, працягнуты тэрмін прыёму працаў на конкурс, прысвечаны гісторыі і сучаснасці беларускага замежжа, які Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абвясціла з нагоды свайго 25-гадовага юбілею. Можна паспець падаць працу да 1 сакавіка на адрас: zbsb.minsk@gmail.com з пазнакай "На конкурс".

Пра нашых суродзічаў за мяжой тут, у Беларусі, дагэтуль ведаюць няшмат. Але ж менавіта праз іх, беларусаў у замежжы, праз іх справы і творы ва ўсе часы нас, беларусаў, бачыць свет за мяжой: давайце супольна распавядзем пра незвычайныя лёсы і справы беларусаў замежжа, каб лепш ведаць і разумець найперш саміх сябе, каб адчуць, што незалежна ад месца пражывання – мы адна нацыя.

Чакаем працаў і ад прафесійных навукоўцаў, і ад аматаў-

Працяг на стар. 2.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# КОНКУРС ПРАЦАЎ ПРА БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА ПРАЦЯГНУТЫ ДА 1 САКАВІКА

**Працяг са старонкі 1.**

раў, ад сталых даследчыкаў і пачаткоўцаў. Месца пражывання значэння не мае. Галоўнае, каб тэксты былі раней не публікаваныя і напісаныя на беларускай мове.

Па выніках конкурсу пераможцы атрымаюць каштоўныя ўзнагароды, а найлепшыя працы ўдзельнікаў будуць апублікаваныя.

Памер тэкстаў да 1 аўтарскага аркуша (каля 40 тысяч знакаў).

Да разгляду прымаюцца арыгінальныя аўтарскія тэксты навуковага, навукова-папулярнага, публіцыстычнага характару. Яны могуць быць прысвечаныя розным аспектам жыцця і дзейнасці беларусаў у замежжы, у тым ліку:

– біяграфіям пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, палітыкаў, грамадскіх і іншых дзеячаў, чыё жыццё і творчасць звязаныя з замежжам;

– асэнсаванню творчай спадчыны дзеячаў беларускага замежжа;

– гісторыі масавых эміграцый, перасяленняў беларусаў па-за межы Беларусі;

– гісторыі або сучаснасці беларускай прысутнасці ў асобнай краіне;

– дзейнасці беларускіх дзяржаўных прадстаўніцтваў на Захадзе: Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Цэнтральнай Рады;

– дзейнасці асобных беларускіх арганізацый, суполак, калектываў, сродкаў масавай інфармацыі;

– сацыяльным, эканамічным, культурным аспектам існавання беларускага замежжа.

**У склад журы конкурсу ўваходзяць сябры Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына":**

• Наталля Гардзіенка, гісторык, намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва (Мінск, Беларусь),

• Лявон Юрэвіч, архівіст Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі,

• др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага інстытуту навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША),

• др. Янка Запруднік, сябра ўправы Беларускага інстытуту навукі і мастацтва (Нью-Ёрк, ЗША),

• Валеры Герасімаў, загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Рады МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# НОВЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ": АДБЫЛОСЯ ПЕРШАЕ ПАСЯДЖЭННЕ УПРАВЫ

У студзені адбылося першае ў 2016 годзе пасяджэнне Управы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Нягледзячы на тое, што ў снежні сябры Управы атрымалі гадавую справаздачу "Бацькаўшчыны", кіраўніцтву было што распавесці пра зробленае арганізацыяй у канцы 2015 і пачатку 2016 года.

Кіраўнік "Бацькаўшчыны" Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская распавялі пра дзейнасць Згуртавання і па супрацоўніцтву з беларускай дыяспарай, і як каардынатара кампаніі "Будзьма беларусамі". Сярод іншага, за гэты нядоўгі час узгадалі наступныя падзеі: выйшла 29-я кніга ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" пра БЦР Алега Гардзіенкі (падрабязна на стар. 5), адбылася прэзентацыя кнігі Міхаіла Валодзіна на беларускай і нямецкай мовах (падрабязна на стар. 1, 6), якая стала чарговым вынікам супрацоўніцтва кампаніі "Будзьма беларусамі!" і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Быў працягнуты да 1 сакавіка конкурс працаў пра беларускае замежжа, абвешчаны з нагоды 25-годдзя Згуртавання (падрабязна на стар. 1-2). Цікавай і адметнай стала акцыя "Соты раз у першы клас" (стар. 3), абвешчаная супольна кампаніяй "Будзьма беларусамі!", Саюзам беларускіх пісьменнікаў і баскетбольным клубам "Цмокі-Мінск".

Жывое абмеркаванне выклікала абвяшчэнне ў Беларусі 2016 года годам культуры. Управа палічыла вельмі важным выйсці са сваімі прапановамі да дзяржаўных структур. Ужо да наступнага пасяджэння было вырашана сфарміраваць спіс прапановаў і пасля зацвярджэння Управай даслаць яго ва ўрад.

Сябры Управы таксама палічылі мэтазгодным ужо сёлета падрыхтаваць свае прапановы адносна святкавання 500-годдзя беларускага друку, што будзе ў 2017 годзе.

Асаблівая ўвага падчас пасяджэння была звернута на неабходнасць правядзення канкрэтных захадаў і мерапрыемстваў у выкананне "Закона аб беларусах замежжа" і праграмы "Беларусы ў свеце" (2016-2020), у сувязі з чым вырашылі падрыхтаваць прапановы ў рэчышчы рашэнняў, прынятых Вялікай Радай, і ў сувязі з правядзеннем Сёмага з'езда беларусаў свету ў 2017 годзе. Прапановы будуць накіраваныя ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, якое адказвае за ажыццяўленне дзяржаўнай палітыкі ў стасунках з беларускай дыяспарай.

Таксама Валянцін Голубеў прапанаваў распрацаваць канцэпцыю канферэнцыі, прысвечаную гісторыі беларускай эміграцыі, з запрашэннем да ўдзелу навукоўцаў з Беларусі і замежжа. Было вырашана сабраць па гэтым пытанні прапановы сяброў управы і абмеркаваць на наступным лютаўскім пасяджэнні.

Ніна Шыдлоўская распавяла пра прапанову, якая паступіла ад сяброў "Бацькаўшчыны" па стварэнні нагруднага знаку "Слуцкі збройны чын 1920–2015". Яна паказала прысутным макет знаку і зачытала яго статут, у якім зафіксавана, што "нагрудным знакам узнагароджваюцца асобы, якія сваімі справамі актыўна ў перыяд 1920-я —1950-я гады спрычыніліся да абароны ідэй незалежнасці Беларусі, закладзеных Трэцяй Устаўной Граматай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі". Н. Шыдлоўская адзначыла, што варта было б узнагародзіць гэтым знакам усіх тых, хто змагаўся за незалежнасць Беларусі ў розныя часы, пачынаючы ад гістарычна значнага моманту – Слуцкага паўстання. Аднак такіх асобаў засталося ў жывых вельмі мала. Таму і трэба спяшацца ўзнагародзіць найперш іх. І адначасова з гэтым рыхтаваць спіс тых, каго варта ўзнагародзіць пасмяротна праз нашчадкаў. Управа ўхваліла стварэнне знаку. Згоду на дапамогу ў фармаванні такога спісу дала навуковец Наталля Гардзіенка.

Алег Трусаў паведаміў, што Таварыства беларускай мовы распачало грамадскую кампанію "Разам назавем вуліцу ў гонар Тадэвуша Касцюшкі!" з мэтай пераназваць адну з вуліц Мінска ў гонар вялікага беларуса, а таксама ўсталяваць яму помнікі ў Мінску, Брэсце і Косаве і прапанаваў "Бацькаўшчыне" далучыцца да гэтай кампаніі. Прапанова была падтрымана сябрамі Управы.

Ніна Шыдлоўская паведаміла пра папярэднія вынікі пісьмовага галасавання Вялікай Рады. Ужо зараз можна лічыць, што галасаванне адбылося: на момант пасяджэння Управы прагаласавала 49 з 95-ці сябраў Вялікай Рады, большасць з якіх ухваліла прапановы па ініцыяванні стварэння ў Міністэрстве замежных справаў Рэспублікі Беларусь асобнай структуры па справах беларусаў замежжа (камітэт/аддзел па справах беларусаў замежжа); па ініцыяванні стварэння асобных пасадаў у пасольствах і консульствах Рэспублікі Беларусь па справах беларускай дыяспары. Таксама сябры

Рады палічылі важным стварэнне Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь дыстанцыйных курсаў вывучэння беларускай мовы з атрыманнем адпаведнага сертыфікату. На падставе рашэнняў Вялікай Рады кіраўніцтва Згуртавання рыхтуе пакеты дакументаў у адпаведныя дзяржаўныя ўстановы.

Чарговае пасяджэнне Малой Рады Алена Макоўская прапанавала правесці 25 лютага, на якім разгледзіць фінансавую справаздачу арганізацыі, а таксама абмеркаваць план дзейнасці на 2016 год, які складаецца на падставе прапановаў сяброў Управы.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



## ВІНШАВАННІ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў лютым: Леаніда Гаравога, Арсеня Ліса, Леаніда Лыча, Змітра Гаўрусіка (Беларусь), Міколу Нікалаева (Расія). Жадаем моцнага здароўя, натхнення ў працы, цікавых падзеяў у жыцці, радасці і дабрабыту!

Таксама шчыра віншуем нашых лютаўскіх юбіляраў – 2 лютага юбілей святкуе Валянціна Шаўчэнка (Канада), 15 лютага – Аркадзь Крупенька (Расія), 28 лютага – Васіль Астаповіч (Украіна). Зычым шаноўным юбілярам сонечнай цеплыні, плёну ў працы, бадзёрага настрою і добрага здароўя!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА АКЦЫЯ "СОТЫ РАЗ У ПЕРШЫ КЛАС!"

Працягваецца акцыя "Соты раз у першы клас!", прысвечаная 100-годдзю беларускай школы. Акцыя была абвешчаная Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", Саюзам беларускіх пісьменнікаў і баскетбольным клубам "Цмокі-Мінск" у межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!"

У межах акцыі выйшаў шэраг артыкулаў, прысвечаных беларускай школе, а таксама падрыхтаваны дзесяць яскравых закладак. На кожнай закладцы змешчана выява і біяграфічная інфармацыя пра аднаго з дзеячаў беларускага Адраджэння, якія працавалі ў сферы нацыянальнай адукацыі: Максім Багдановіч, Францішак Багушэвіч, Зоська Верас, Карусь Каганец, Якуб Колас, Вацлаў Ластоўскі, браты Іван і Антон Луцкевічы, Каміла Марцінкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Цётка. Закладкі ўпрыгожаны багатым ілюстрацыйным матэрыялам.

Цягам некалькіх тыдняў кожны, хто набываў кнігу ў Мінску ў кнігарнях, меў магчымасць атрымаць закладку ў падарунак.

**Паводле budzma.by**




**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# У БЕЛАРУСІ ЎРУЧАНАЯ ПЕРШАЯ НАРОДНАЯ СТЫПЕНДЫЯ

У Міжнародны дзень студэнтаў, 17 лістапада, у Беларусі быў абвешчаны набор на першую незалежную грамадскую стыпендыю імя Аркадзя Смоліча для студэнтаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў Беларусі за выбітную грамадскую, культурную і сацыяльную дзейнасць у галіне развіцця грамадзянскай супольнасці Беларусі.

Стыпендыя называецца народнай таму, што ў яе ўклаліся ўсе патроху: і грамадскія арганізацыі, і камерцыйныя фірмы, і прыватныя асобы.

Сярод арганізацыяў у стыпендыяльны фонд ахвяравалі: Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "ЗБС "Бацькаўшчына", грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" (Беларусь), Цэнтр развіцця студэнцкіх ініцыятываў (Беларусь), культурніцкая пляцоўка "Арт-сядзіба" (Беларусь), Брацтва арганізатараў студэнцкага самакіравання (Беларусь), праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне "Рух "За свабоду", моладзевая асацыяцыя "StudAlliance" (Літва), Студэнцкае прадстаўніцтва Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Літва).

Свой асабісты ўнёсак у стыпендыю зрабілі: Кірыл Атаманчык, Максім Марыніч, ІгарНазаранка, Яўген Міхасюк, Павел Быкоўскі. Таксама, сярод фундатараў стыпендыі ёсць кампаніі "Vilnius Relax" (Літва) і "UFOX Media" (Беларусь).

Арганізатары Стыпендыі сабралі 40 заявак, сярод якіх 7 трапіла ў фінал.

Напярэдадні Новага году было абвешчана, што першай стыпендыянткай стала студэнтка архітэктурнага факультэта Нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Ганна Смірнова за ініцыятыву моладзевага летніка "Любча над Нёманам", дзе студэнты ўласнымі высілкамі аднаўляюць гістарычную спадчыну Беларусі — Любчанскі замак.

**Паводле budzma.by**

навіны

# НА ХВЕДАРА НЮНЬКУ ПАДАЛІ ЧАРГОВУЮ АПЕЛЯЦЫЮ Ў ПРАКУРАТУРУ ЯГО АПАНЕНТЫ

Супраць Хведара Нюнькі падалі чарговую апеляцыю ў пракуратуру яго апаненты.

Нагадаем, што Хведар Нюнька быў старшынёй Таварыства беларускай культуры Літвы з 1989 па 2014 гг., таксама ён з'яўляецца сябрам Рады БНР і сябрам Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Прыкладна год таму ў Таварыстве беларускай культуры ў Вільні адбыўся канфлікт, у выніку якога быў абраны новы старшыня, а апаненты Хв. Нюнькі з ліку сяброў ТБК падалі заявы на свайго былога старшыню ў пракуратуру, суд і крымінальную паліцыю Літвы. Таксама была распачатая кампанія публічнага цкавання Хв. Нюнькі.

Тады Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" разам з акадэмікам Радзімам Гарэцкім, рэдактарам нью-ёркскай газеты "Беларус", старшынёй Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Ганнай Сурмач, Таварыствам беларускай мовы распаўсюдзілі адкрытыя лісты ў абарону гонару і годнасці Хведара Нюнькі, у якіх заклікалі спыніць публічную кампанію па цкаванні чалавека, які столькі годнага зрабіў для захавання і папулярызацыі беларускай культуры ў Літве. Толькі літоўскі суд мае кампетэнцыю даваць прававую ацэнку па абвінавачваннях, агучаных апанентамі Хведара Нюнькі.

У 2015 годзе, пасля разгляду абвінавачанняў, вылучаных супраць Хв. Нюнькі, літоўская пракуратура вырашыла спыніць справу з прычыны адсутнасці злачынных дзеянняў з боку апошняга. Тым не менш, апаненты сп. Нюнькі зноўку звярнуліся ў пракуратуру, паколькі літоўскае заканадаўства не абмяжоўвае колькасць падачы апеляцый.

Падрабязна пра "віленскі канфлікт" піша даўні паплечнік Хведара Нюнькі Алег Аблажэй.

У даўнія ўжо часы, калі Літва толькі-толькі адрадзіла незалежнасць, адначасова аднавілі сваю дзейнасць нацыянальныя суполкі. І старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька даведаўся, што да трох драўляных дамкоў на вул. Жыгіманта ў Вільні мелі дачыненне беларусы. Яны належалі Друйскім айцам-марыянам і былі збудаваны на беларускія складкі.

А значыць, ёсць сэнс патрабаваць іх вярнуць ва ўласнасць цяперашняй беларускай грамадзе.

Клопатаў было нямала, сустрэчы і перапіска з уладамі, і адбыўся цуд! Выйшла пастанова аб перадачы ўсіх трох дамкоў Таварыству! Але нядоўга цешыліся беларусы – айцы-марыяне абурыліся: пры чым тут свецкая беларуская арганізацыя! І пастанову адмянілі.

Зноў была доўгая тузаніна, урэшце выдзелілі памяшканне ў адным з дамкоў. Але ненадоўга. Выйшла чарговая пастанова, паводле якой ТБК мела ў кароткі час вызваліць і гэта невялікае памяшканне. Усё пачалося спачатку – просьбы, хадайніцтвы, перапіска з найвышэйшымі ўладамі. Памяшканне ўдалося адстаяць, хоць і на "птушыных правах".

Дом быў у аварыйным стане, пайшлі трэшчыны, высветлілася, што дом... не мае падмурку! Ацяпленне было пячное, зімой было холадна, пайшла плесня, з'явіўся спецыфічны смурод. Газавая інсталяцыя на кухні прагніла, так што кухняй карыстацца стала немагчыма. Выйшла са строю яшчэ й прыбіральня!

І праблемы такога кшталту толькі нагрувашчваліся. Дапамогі чакаць не было адкуль. І тут з'явілася прапанова абмену гэтай руіны на добраўпарадкаваную чатырохпакаёвую кватэру ў цагляным доме брэжнеўскай забудовы непадалёк вакзалу, меншую па плошчы, але прыгодную для карыстання. Які быў выбар – чакаць з мора пагоды, спыніць дзейнасць ці пагадзіцца? Пытанне было вынесена на Раду ТБК, і было вырашана – мяняць! Тым больш, што правы на плошчу ў дамку на Жыгіманту не былі пацверджаны заканадаўствам Літвы.

Такім чынам ТБК перабралася на вуліцу Бролю, 9–86. Вядома, было цеснавата, затое цёпла, светла. Прыязджалі госці з Беларусі, адбываліся сустрэчы, сходы, адзначаліся святы, юбілеі, невялічкія канцэрты. Клопатаў было нямала – утрымание такой кватэры ў Вільні каштуе дорага. Неяк выкручваліся – частку аплочваў сам старшыня ТБК, частку студэнты, якія пасяліліся ў вольным пакойчыку. Большасць праблемаў вырашаў спадар Нюнька, які за гэты час набыў аўтарытэт не толькі ў беларускім асяроддзі, стаў чальцом Рады БНР, але і ў кіруючых колах Літвы. За будучыню арганізацыі спадар Хведар быў спакойны: з'явілася кандыдатура, якой можна было даверыць кіраўніцтва ТБК у блізкай перспектыве. Гэта быў малады гісторык, які працаваў над доктарскай дысертацыяй, добра валодаў беларускай мовай, Аляксандар Адамковіч. У яго былі праблемы з жытлом, і спадар Нюнька саступіў яму пад жытло ўласны кабінет.

І тут ідылія, якая цягнулася каля 11 гадоў, раптоўна скончылася. Спадар Нюнька здаўна меў нядобразычліўцаў. І вось сфармавалася група "актывістаў", якія пачалі настойліва распаўсюджваць наступную версію абмену плошчы: мала таго, што атрыманая плошча значна меншая за аддадзеную, але і страчанае месца было куды больш прэстыжнае, ды ўвогуле беларусам належалі ўсе тры дамкі, пра што Нюнька не казаў. Цяпер жа яны разам з пляцам каштуюць каля 7 мільёнаў літаў, а абмен адбыўся зусім без даплаты! Куды падзелася розніца?

Вядома, куды – у кішэню прагнага старшыні ТБК! Мала таго – ТБК атрымлівала розныя гранты, аплату праектаў, ахвяраванні, карацей, арганізацыя мела грошай, як дурань махоркі, – але ўсе яны затойваліся ад грамады і ішлі на асабістыя патрэбы старшыні.

Трэба аддаць належнае лялькаводам гэтай правакацыі – задумка сапраўды "элегантная": знішчыць кіраўніка адзінай беларускай суполкі, якая 25 гадоў нязменна была апазіцыйнай да менскага рэжыму, рукамі саміх беларусаў. "Путч" узначаліў той самы Адамковіч, лёсам якога так клапаціўся спадар Хведар. Дзейнічалі рашуча – напісалі заявы адразу ў тры месцы: у суд, пракуратуру, крымінальную паліцыю. Склікалі сход ТБК, на якім абралі новую Раду, і сабралі подпісы пад патрабаваннем сурова пакараць былога старшыню і вярнуць беларусам дамкі.

Следства цягнулася, апытваліся сведкі. І ўсё ж, нягледзячы на актыўнасць "путчыстаў", справа не клеілася. Урэшце наняты імі адвакат сфармуляваў абвінавачванне ажно з 32 пунктаў. І патрабаванне спагнаць з Хведара Нюнькі на карысць ТБК 32 608 еўра 68 цэнтаў. Усё гэта цягнулася доўгія месяцы. Аднак да суда справа не дайшла. Галоўны пракурор уважліва разгледзеў усе матэрыялы і вынес вердыкт – спыніць справу з прычыны адсутнасці злачынных дзеянняў з боку падазраванага Хведара Нюнькі. Здавалася б, можна ўздыхнуць з палёгкай! Але дзе там...

Літоўскае заканадаўства дазваляе падаваць апеляцыі колькі заўгодна разоў. І вось у адказ на чарговую апеляцыю пракуратура прыняла рашэнне распачаць следства нанова...

**Алег Аблажэй**

**Надрукавана ў скароце. Артыкул цалкам чытайце на сайце zbsb.org.**

## ПАДЗЯКА

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае падзяку Алесю Карповічу (Латвія) і Каталін і Сільвестру Будкевічам (Вялікабрытанія) за падтрымку арганізацыі. Асобная падзяка Беларускаму Дабрачыннаму Фонду (Вялікабрытанія) за падтрымку выдання бюлетэня.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма!"

# БЕЛАРУСЫ ЗАВЯЛІ #БУДЗІЛЬНІК

Напярэдадні Калядаў і Новага года грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" правяла добры флэшмоб #Будзільнік! (падрабязнасці ў мінулым нумары бюлетэня "Беларусы ў свеце" (№ 11–12 (163) лістапад–снежань 2015)). Кожны дзень набліжэння Калядаў было прапанавана адзначыць невялічкай, нескладанай, але добрай справай!

За гэты час сотні людзей тым ці іншым чынам далучыліся да ініцыятывы, выканаўшы, падзяліўшыся альбо проста лайкнуўшы ў сацыяльных сетках нашыя заданні. Самай актыўнай удзельніцы флэшмобу – Вользе Асмалоўскай з Брэста – былі дасланыя калядныя сувеніры ад Будзьмы!

**Паводле budzma.by**




навіны друку

# НОВЫЯ ФАКТЫ З АРХІВАЎ У КНІЗЕ ПРА БЦР. ШУКАЙЦЕ Ў КНІГАРНЯХ.

Кніга пра Беларускую Цэнтральную Раду, падрыхтаваная навукоўцам і гісторыкам Алегам Гардзіенкам, стала чарговым сумесным выданнем Згуртавання "Бацькаўшчына" і Беларускага інстытута навукі і мастацтва з Нью-Ёрка (29-я ў серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны").

У кнізе "Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне – дзейнасць – заняпад" расказваецца пра беларускі нацыянальны рух падчас нямецкай акупацыі і спробу стварэння ўраду з дазволу немцаў. Беларуская Цэнтральная Рада была створана ў 1943 годзе і праіснавала фактычна да 1995 года. На сённяшні дзень гэтая гістарычная з'ява застаецца мала вывучанай. Да таго ж за савецкім часам і нават у постсавецкі перыяд многімі гісторыкамі дзейнасць БЦР, асабліва ў перыяд з 1941 па 1945 гады, ацэньвалася адназначна негатыўна, а яе дзеячы падаваліся выключна як "здраднікі" і "злачынцы".

Кніга А. Гардзіенкі не дае ацэнку тым ці іншым гістарычным падзеям, а з'яўляецца навуковым даследаваннем гісторыі БЦР як цэласнага працэсу з 1943 да 1995 гг. у кантэксце беларускага нацыянальнага руху XX ст., у чым і палягае яе каштоўнасць.

Пры падрыхтоўцы кнігі аўтар ці не ўпершыню ў айчыннай гістарыяграфіі выкарыстаў матэрыялы не толькі з беларускіх архіваў, але і з архіваў БЦР, што захоўваюцца на Захадзе, у тым ліку асабістыя зборы Радаслава Астроўскага, Юрыя Сабалеўскага, Анатоля Плескачэўскага, Юрыя Попкі і інш.

"БЦР – гэта адна са старонак нацыянальнага руху ў XX ст. Я не першы, хто пісаў на гэту тэму або закранаў яе, – адзначае Алег Гардзіенка. – Варта згадаць працы Юрыя Туронка і Юрыя Грыбоўскага. Я паспрабаваў прааналізаваць дзейнасць БЦР не толькі падчас вайны, але і падчас эвакуацыі, у паваеннай Нямеччыне і на эміграцыі (у першую чаргу, ЗША, дзе апынуліся большасць прыхільнікаў).

Падрабязна спыніўся на пытанні эвакуацыі з Беларусі. Дарэчы, тагачасная хваля бежанцаў і вымушана перамешчаных асобаў з краін Усходняй Еўропы на тэрыторыі Германіі сувымерна з сённяшняй хваляй уцекачоў у Еўрасаюз (беларусы ў хвалі 1944 г. былі малой часцінкай).

Варта адзначыць, што многія дзеячы БЦР на эміграцыі палічылі, што варта гэтую старонку нацыянальнага руху закрыць і далучацца да адноўленай Рады БНР або пачынаць з чыстага ліста, ствараючы новыя грамадскія арганізацыі. Частка ж, найперш Радаслаў Астроўскі, заставаліся вернымі БЦР да апошняга".




Як пішуць у прадмове др. Янка Запруднік і др. Вітаўт Кіпель, кніга гісторыка Алега Гардзіенкі адзначаецца "менавіта новымі фактамі, вынесенымі на дзённае святло з архіўных крыніцаў". "Эмігранцкая" частка кнігі, адзначаюць яны, "цалкам новая ў нашай гістарыяграфіі ды важная як для гісторыі БЦР, гэтак і ўсяе беларускае эміграцыі".

У кнізе даецца агляд літаратуры і крыніцаў інфармацыі па тэме даследавання, публікуюцца асноўныя дакументы, датычныя дзейнасці БЦР, хроніка галоўных падзеяў, біяграфічныя звесткі.

Кніга "Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943–1995)" выдадзеная сумесна з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор".

***

**Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943—1995) / Алег Гардзіенка ; прадм. В. Кіпеля, Я. Запрудніка. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 480 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 29).**

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ЗАВЯРШЫЎСЯ ЮБІЛЕЙНЫ ГОД "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

У 2015-м годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" адзначыла свой 25-гадовы юбілей. Гэта немалы час для грамадскай арганізацыі, добрая нагода, каб падвесці вынікі дзейнасці, прыгадаць, з чаго ўсё пачыналася. На працягу года сябры Згуртавання дасылалі свае ўспаміны і развагі з нагоды юбілею "Бацькаўшчыны", а таксама адказы на юбілейную апытанку. Гэтыя допісы мы друкавалі ў бюлетэні "Беларусы ў свеце" і на сайце zbsb.org.

Завяршыўся юбілейны год "Бацькаўшчыны" вялікай публікацыяй у газеце "Народная Воля" (№102 (4047), 29 снежня 2015). У артыкуле пад назвай "Светлая лучнасць родных душ. Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" — 25 гадоў!" змешчаны вытрымкі з інтэрв'ю сяброў і заснавальнікаў Згуртавання, даецца падборкай фотаздымкаў з архіва "Бацькаўшчыны".

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны "Будзьма!"

# "МІНСКІЯ ГІСТОРЫЙКІ" МІХАІЛА ВАЛОДЗІНА ВЫЙШЛІ ПА-БЕЛАРУСКУ

Працяг са старонкі 1.

арганізацыям, без якіх стварэнне кнігі было б немагчымае: рыэлтарскай кампаніі "Твоя столица" ў асобе дырэктара Людмілы Красоўскай, кампаніі "Будзьма беларусамі!", якую прадставілі Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская, і Саюзу беларускіх пісьменнікаў, а менавіта Барысу Пятровічу і Алесю Пашкевічу. Менавіта ў бібліятэцы Саюза – "Кнігарня пісьменніка" – і выйшаў беларуска-нямецкі "Наш стары добры Вавілон".

Цікава, што аўтарам ідэі перакладу Міхаіл Валодзін лічыць Уладзіміра Пуціна. "Я абсалютна сур'ёзна пра гэта кажу. Справа ў тым, што ён правеў рысу паміж рускімі – і рускімі: рускімі – жыхарамі Расіі (Расійскай імперыі) і рускімі, што жывуць тут. Доўгія гады я сапраўды лічыў: добра, што беларуская мова ёсць, але ведаць яе неабавязкова. Цяпер я лічу інакш. Аднак беларуская мова не павінна быць адна. Чым больш моў – тым лепш".

Таксама Міхаіл Валодзін спадзяецца, што "Наш стары добры Вавілон" стане альтэрнатывай саломцы і матрошкам, якія беларусы возяць за мяжу ў якасці сувеніраў.

Чаму другой мовай выдання абраная нямецкая? Аўтар называе дзве прычыны: па-першае, немцы мелі не апошняе значэнне ў старасвецкім Менску і паўплывалі на культуру горада; па-другое, яны вельмі многае зрабілі для Мінска, дапамагаючы адбудоўваць горад, "хоць гэта, магчыма, і комплекс віны". Пераклад на беларускую мову здзейсніў Віталь Рыжкоў, на нямецкую – Святлана Люкевіч і Андрэас Градэль.

Беларуска-нямецкая версія "Вавілона…" захавала мастацкае афармленне папярэдняй кнігі: на вокладцы — адмыслова для таго напісаныя карціны Ігара Рымашэўскага; усе "ўнутраныя" ілюстрацыі — Сяргея Стэльмашонка.

З віншаваннямі аўтару і словам пра Мінск падчас прэзентацыі выступілі знаўцы Мінскай гісторыі Вадзім Зелянкоў, Зміцер Падбярэзскі, Цімох Акудовіч, мастацвазнаўца Сяргей Харэўскі, мастак Дзмітрый Сурыновіч, фатограф Георгій Ліхтаровіч (яго работы таксама ёсць у кнізе), Андрэй і Крысціна Вітушкі, бібліятэкар Наталля Баброва, гісторык, мастацтвазнаўца і "калекцыянер пладовага віна" Ягор Сурскі, а таксама музыкі Алесь Чумакоў, Пятро Клюеў і Зміцер Бенят.

Прэзентацыя доўжылася тры гадзіны, але і пад заслону зала заставалася поўнай. Не будзе перабольшаннем сказаць, што вялікая ў гэтым заслуга Змітра Вайцюшкевіча, чый выступ чакалі шчыра і з нецярпеннем. Дарэчы, выкананая ім на развітанне "Бывайце здаровы" таксама знайшла месца ў "Нашым старым добрым Вавілоне".

**Паводле budzma.by**

навіны

# "ГАДОЎ ДАТЫКНЕННІ"

Напрыканцы 2015 года, 16 снежня, у памяшканні Рыжскай Думы (Рыжскай ратушы) адбылося адкрыццё выставы, жывапісу і графікі "Гадоў датыкненні", прысвечанай 40-годдзю творчай дзейнасці Вячкі Целеша, вядомага латвійскага мастака-беларуса.



Вячку Целеша (справа) віншуе Уладзімір Козін

Вячка Целеш – сапраўдны творца і вялікі працаўнік. На яго рахунку – вялікая колькасць персанальных і калектыўных выстаў. Толькі ў 2015 годзе ён зладзіў некалькі калектыўных і тры персанальныя выставы.

З цёплымі пажаданнямі прыйшлі на выставу прадстаўнікі беларускай амбасады – першы сакратар Аляксандр Сушкевіч і саветнік-пасланнік Яраслаў Міцкевіч, вядомы латышскі мастацвазнаўца Марыса Бранцыс, прафесар ISMA Віктар Гапеенка. Вядомы латышскі паэт і перакладчык Улдыс Бэрзыньш прачытаў верш Пётры Целеша ў сваім перакладзе з польскай на латышскую мову. Пра Пётру Целеша патрэбна сказаць асобна. Гэта адзін з прадстаўнікоў радаводнага дрэва Вячкі Целеша, імя якога згадвае спадар Целеш у сваёй кнізе "Адсюль наш род, тут мой прычал". Не забыліся пра свайго настаўніка і першага дырэктара і сённяшнія вучні Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы. Яны парадавалі ўдзельнікаў імпрэзы музычным віншаваннем, ад якога паюначы хораша пасвятлеў у мастака твар. Не, не здарма столькі здароўя, столькі высілкаў было некалі аддадзена любай школе!

Таксама В. Целеша прыйшоў павіншаваць яго педагог, былы загадчык кафедры жывапісу Латвійскай Акадэміі мастацтваў прафесар Уладзімір Козін.

Дарагі, родны наш Вячка! З юбілейнай выставай Вас! Жадаем здароўя, моцы, спагады, адданых вучняў і мноства сонечных, жыццесцвярджальных колераў на вашых палотнах!

**Паводле Ганны Іванэ, svitanak.lv**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЛЮТЫ 2016 ГОДА

3 лютага – 90 гадоў таму, у 1926-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты "Беларускае слова", выданне Часовай беларускай рады, потым Беларускай нацыянальнай рады (выдавалася да 9 лютага 1928 г.).

4 лютага – 85 гадоў таму, у 1931-м, у Мінску, пасля допытаў у АДПУ, скончыў жыццё самагубствам Усевалад Ігнатоўскі (1881–1931), гісторык, першы прэзідэнт Беларускай Акадэміі навук.

5 лютага – 100 гадоў таму, у 1916-м, нарадзілася Валянціна Пашкевіч (дзяв. Жукоўская) (1916–2004), дзеяч эміграцыі ў Канадзе, аўтар беларускіх падручнікаў.

5 лютага – 15 гадоў таму, у 2001-м, у Глен Коў (Нью-Ёрк, ЗША), памёр Масей Сяднёў (1915–2001), літаратар, вязень савецкага канцлагеру, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

8 лютага – 150 гадоў таму, у 1866-м, нарадзіўся Васіль Дружчыц (1866–1937), гісторык.

8 лютага – 190 гадоў таму, у 1826-м, нарадзіўся Аляксандр Валіцкі (1826–1893), выдавец, музычны крытык, спявак, удзельнік паўстання 1863-1864 гг.

8 лютага – 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Іван Мележ (1921–1976), пісьменнік, грамадскі дзеяч.

14 лютага – 95 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Мікола Улашчык (1906–1986), гісторык, археограф, археолаг, этнограф, краязнавец, літаратар.

15 лютага – 90 гадоў таму, у 1926-м, нарадзіўся Мікола Ягаўдзік (1926–1989), вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

17 лютага – 210 гадоў таму, у 1806-м, нарадзіўся Канстанцін Тышкевіч (1806–1868), гісторык, краязнавец, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

17 лютага – 100 гадоў таму, у 1916-м, памерла Цётка (сапр. Алаіза Пашкевіч, па мужу Кайрыс) (1876–1916), грамадска-палітычны дзеяч, паэтэса, асветніца, выдавец.

18 лютага – 60 гадоў таму, у 1956-м, памёр Янка Быліна (сапр. Ян Семашкевіч) (1883–1966), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт.

21 лютага – Міжнародны дзень роднай мовы.

21 лютага – 135 гадоў таму, у 1881-м, памёр Іосіф Ходзька (1800–1881), навуковец-геадэзіст, падарожнік, тапограф.

26 лютага – 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Язэп Лагіновіч (1891–1940), дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху, удзельнік Слуцкага паўстання.

28 лютага – 100 гадоў таму, у 1916-м, у Вільні выйшаў першы нумар беларускай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты "Гоман" ("Homan"), выдавалася лацінкай і кірыліцай да канца 1918 г.

навіны

# ІГАР ІВАНОЎ: БЕЛАРУСКАЯ ЦАРКВА СТАНЕ ПЕРШЫМ ЦАРКОЎНЫМ ДРАЎЛЯНЫМ БУДЫНКАМ, ПАБУДАВАНЫМ У ЛОНДАНЕ З СЯРЭДЗІНЫ 17 СТАГОДДЗЯ

На сядзібу Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" 4 студзеня завітаў сакратар Апякунскай рады Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны ў Лондане спадар Ігар Іваноў. Ён распавёў пра працу бібліятэкі і падзяліўся навінамі беларускага жыцця ў Лондане.




Айцец Аляксандар Надсан паказвае макет будучай царквы. Архіўнае фота, люты 2014 г. Радыё"Свабода"

## Пра Скарынаўку і яе карыстальнікаў

Паводле слоў Ігара Іванова, галоўным новаўвядзеннем у працы Скарынаўкі сёння ёсць тое, што цяпер бібліятэка працуе штосуботу з 14 да 18 гадзін і яна адчыненая для ўсіх, не толькі для навукоўцаў.

"Раней такога не было, раней трэба было папярэдне тэлефанаваць і дамаўляцца на сустрэчу, а цяпер можна проста прыйсці ў бібліятэку без папярэдняй дамоўленасці", – кажа Ігар Іваноў.

У бібліятэку звяртаюцца навукоўцы, студэнты, а таксама і проста брытанцы, якія цікавяцца Беларуссю. Прыходзяць таксама беларусы, каб паглядзець экспазіцыю ў музеі.

"Нядаўна звяртаўся да нас Крысціян, студэнт з краіны баскаў – распавядае Ігар Іваноў. – Крысціян паехаў у Беларусь, каб вывучаць рускую мову, даведаўся пра існаванне беларускай мовы і захацеў вывучыць яе. Ён вельмі прыгожа размаўляе па-беларуску, усё адно як спявае. Зараз ён пачынае пісаць дактарат пра гаворкі заходняга Палесся ў адным з брытанскіх універсітэтаў і звярнуўся ў Скарынаўскую бібліятэку, каб знайсці патрэбныя для працы матэрыялы".

Скарынаўская бібліятэка з'яўляецца найбуйнейшым сховішчам беларускіх і беларусазнаўчых выданняў па-за межамі Беларусі. На сённяшні дзень вельмі важнай і актуальнай задачай з'яўляецца аблічбаванне фондаў бібліятэкі, у якіх захоўваецца больш за 30 тысяч кніг, датычных розных аспектаў беларусазнаўства. Ігар Іваноў паведаміў, што да іх звярнуліся супрацоўнікі электроннай бібліятэкі "Беларуская палічка" і прапанавалі супольна праводзіць аблічбаванне фондаў Скарынаўскай бібліятэкі.

Паводле інфармацыі суразмоўцы, нядаўна быў зроблены рамонт у адным з памяшканняў бібліятэкі, і яно здаецца ў арэнду ў якасці кватэры з асобным уваходам, і такім чынам бібліятэка атрымлівае даход. У далейшым будзе праводзіцца рамонт у іншых памяшканнях бібліятэкі, у першую чаргу плануецца адрамантаваць пакой, у якім маглі б жыць навукоўцы, якія прыязджаюць працаваць у бібліятэцы.

## Пра беларускую нядзельную школу ў Лондане

У каталіцкай місіі таксама ідзе актыўная праца, – кажа Ігар Іваноў, – рэгулярна праводзяцца багаслужбы. Была створана школка: падлеткі займаюцца па суботах, а для дзяцей заняткі – у нядзелю. Настаўніца з Беларусі – Наталля Раманчук – шмат дапамагае ў царкоўных справах і таксама займаецца школай, якую цяпер наведвае 10-12 дзяцей і падлеткаў. Гэта не надта шмат, але з улікам таго, што яшчэ крыху больш за год таму ніхто з іх не хадзіў, то гэта значнае дасягненне. Сёлета пад Новы год зладзілі батлейку і таксама каляднае прадстаўленне. Батлейку беларуская грамада ў Лондане ладзіць ужо вельмі даўно, а вось прадстаўленне з удзелам вучняў і іх бацькоў – плён працы новай школы.

## Пра будаўніцтва царквы Святога Кірылы Тураўскага

Ужо пачалося будаўніцтва царквы Святога Кірылы Тураўскага, – паведаміў радасную вестку Ігар Іваноў. – Дзясятая частка праекту ўжо зробленая. Хутка пачнуць заліваць фундамент. А працы павінны скончыць у кастрычніку 2016 года.

Гэта будзе першы беларускі храм-помнік ахвярам Чарнобыльскай катастрофы за мяжой. Аўтар праекта – малады лонданскі архітэктар кітайскага паходжання Цзыўай Рафаэль Со.

"Рафаэль сапраўды захоплены Беларуссю, збіраецца пісаць магістарскую дысертацыю пра архітэктуру ВКЛ, – гаворыць Ігар Іваноў. – У англамоўным свеце мала пра гэта ведаюць. Таму, як ў свой час Гай Пікарда адкрыў для саміх беларусаў і для замежнікаў беларускую царкоўную музыку, так і Рафаэль, магчыма, адкрые для англамоўнага свету архітэктуру ВКЛ".

Па словах Ігара Іванова, беларуская царква стане першым царкоўным драўляным будынкам, пабудаваным у Лондане з сярэдзіны 17 ст., калі адбыўся Вялікі пажар.

## Пра святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадруку

У кастрычніку Скарынаўскую бібліятэку наведаў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша. Візіт быў прымеркаваны да пачатку святкавання ў Вялікабрытаніі 500-годдзя беларускага кнігадруку.

Алесь Суша прывёз у падарунак для беларускай бібліятэкі ў Лондане першыя восем тамоў факсімільнага ўзнаўлення ўсіх Скарынавых выданняў і распавёў пра планы па святкаванні 500-годдзя беларускага кнігадруку ў Беларусі і ў замежжы.

Падчас сустрэчы з бібліятэчнай радай былі абмеркаваны пытанні супрацоўніцтва паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Скарынаўскай бібліятэкай у галіне абмену інфармацыяй, аблічбавання бібліятэчных фондаў Скарынаўкі, арганізацыі выстаў і інш.

Адмыслова да прыезду госця падрыхтавалі выставу рэдкіх старадрукаў з фондаў Скарынаўкі. Прыемнай нечаканасцю для ўдзельнікаў сустрэчы сталася імправізаваная экскурсія па выстаўленых экспанатах, якую правёў Алесь Суша.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

in memoriam

# АЙЦЕЦ РЫГОР САСНА
**(1939–2016)**

Святар, тэолаг і беларусазнаўца, айцец Рыгор Сасна памёр 6 студзеня пасля доўгай і цяжкай хваробы на 77-ым годзе жыцця. 9 студзеня ён быў пахаваны на праваслаўных могілках у Бельску-Падляшскім (Польшча).

"Беларусы Беласточчыны ў асобе айца Рыгора Сасны страцілі не толькі праваслаўнага святара, але таксама свядомага беларуса і выдатнага публіцыста. Сотні яго артыкулаў былі надрукаваныя на старонках тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва", – гаворыць яго галоўны рэдактар Яўген Вапа.


Фота Андрэя Лянкевіча, kamunikat.org

Рыгор Сасна нарадзіўся ў 1939 годзе ў Шэрнях каля Орлі.

Святарскую службу пачаў у 1960 годзе ў Кальнікове. У той час ён зацікавіўся гісторыяй праваслаўнай царквы.

Сваё святарскае служэнне айцец Рыгор спалучаў з навуковай працай. Ён апублікаваў каля 30-ці кніг, сотні артыкулаў, у прыватнасці датычных гісторыі Праваслаўнай Царквы на тэрыторыі Рэчы Паспалітай і асобных парафій. Разам з Матушкай Антанінай стварыў у Рыбалах этнаграфічны музей "Бацькаўшчына".

**Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"**

***

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні ўсім, хто ведаў айца Рыгора Сасну. Рай светлы яго душы!

навіны

# У НЬЮ-ЁРКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АЛЬМАНАХУ "БЕЛАРУС"


Марат Клакоцкі і Валянціна Якімовіч

26 снежня ў Міжнародным доме маракоў на Манхэтане адбыўся чарговы сход Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня" і прэзентацыя дзявятага па ліку выпуску альманаху "Беларус" – штогадовага літаратурнага выдання беларусаў замежжа.

Вёў імпрэзу галоўны рэдактар і выдавец Марат Клакоцкі, які даваў слова аўтарам твораў, уключаных у новы выпуск альманаху. Сярод іх і лідар КХП-БНФ Зянон Пазьняк, які сёлета ўпершыню апублікаваў у выданні свае вершы і апавяданні.

Хвілінай маўчання прысутныя ўшанавалі памяць Уладыкі Эмігідыюша (Юрыя) Рыжага, аднаго з самых актыўных аўтараў альманаху, які адышоў у лепшы свет 29 лістапада.

Свае вершы прачытала маладая паэтка Марына Кражова, а таксама пра свае творы расказалі прысутныя на імпрэзе аўтары Віталь Зайка, Сяржук Сокалаў-Воюш, Ганна Шарко і Валянціна Якімовіч.

**Паводле Belarusworld BAZA**

навіны

# БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНЫ РУХ МАЛДОВЫ ЗЛАДЗІЎ "КАЛЯДНАЕ СВЯТА"

Новы 2016 год у беларусаў Малдовы пачаўся згодна са старажытнымі традыцыямі нашых продкаў. У Бюро міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова адбылося "Каляднае свята". Гэта штогадовы сацыяльны праект для этнічных беларускіх дзяцей і моладзі, а таксама іх бацькоў, што пражываюць у Малдове. Ён накіраваны на захаванне, вывучэнне і папулярызацыю беларускіх традыцый, беларускай мовы, культуры, умацаванне міжкультурнага дыялогу паміж беларускім і малдаўскім народамі. Гэтую дабрачынную імпрэзу другі год ладзіць грамадскае аб'яднанне "Беларускі культурны рух Малдовы".

Сёлета "Каляднае свята" сабрала шмат сяброў, гасцей з Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова, суайчыннікаў з беларускіх грамадскіх суполак у Малдове, шматлікіх сяброў з рускай, украінскай і польскай дыяспар, а таксама прадстаўнікоў бізнесу.

Беларуска-малдаўскі этнічны тэатр "Куфар" выступіў у ролі гаспадара "Каляднага свята" і, мяркуючы па шчырых ўсмешках дзяцей і шчодрых апладысментах дарослых, справіўся з гэтай задачай на выдатна. Пасля калядных спеваў Анёлаў, якія абвясцілі нараджэнне Сына Божага, госці свята з радасцю прымалі вясёлых беларускіх калядоўшчыкаў.

Добрай энергіяй зарадзілі беларускія і малдаўскія калядныя спевы і танцы. Дарослыя беларусы Малдовы вельмі крэатыўна выканалі ўсе няпростыя заданні Зюзі – бога беларускай зімы і яго памагатай Завірухі. Натхнёныя бліскучым прыкладам старэйшых, выдатныя творчыя таленты ў сваіх навагодніх віншаваннях праявілі маленькія беларусы Малдовы. Па традыцыі "Каляднага свята" ніхто з гасцей не застаўся без гасцінца. Амаль 60 беларускіх дзетак атрымалі вельмі смачныя навагоднія падарункі ад Зюзі, а ўсіх больш сталых чакаў каляндны стол са святочнымі пачастункамі.

Выдатным завяршэннем "Каляднага свята" і самай галоўнай узнагародай для артыстаў беларуска-малдаўскага этнічнага тэатра "Куфар" сталі шматлікія словы падзякі і добрыя каментары сяброў.

**Паводле Ганны Мазур**

**Беларусы ў свеце**
No1 (164), студзень 2016
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27